# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 10 (265) | ГОД VII | БЕЛАСТОК 11 САКАВІКА 1962 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.

**УВАГА! НОВАЯ АПОВЕСЦЬ**

**Разведка ў час II-ой сусветнай вайны — тэма, якая цікавіць заўсёды. Можна не спаць, не есці, але немагчыма адлажыць кнігі аб слаўным разведчыку, яго прыгодах дзейнасці. Тым больш, калі гэты разведчык з'яўляецца адначасова (і спецыяльна) высокім афіцэрам варожай арміі.**

**Чыім афіцэрам і чыім разведчыкам? — аб гэтым потым. За тыдзень таксама скажам чытачу таямнічы загаловак новай аповесці, якую «Ніва» будзе друкаваць, аб незвычайных прыгодах аднаго з найлепшых разведчыкаў у апошняй вайне. Чалавека, якога бацькі аплаквалі як загінуўшага ўжо на пачатку вайны.**

**УВАГА! НОВАЯ АПОВЕСЦЬ**

ВЕРА ЛЕЎЧУК

## ЗАЛУКІ

Вёска. Селянковая тэма даўніх паэтаў. Спакой, ціш, пырсканне худога каня і лёскат драўляных колаў воза. Як далёка не для нас цяпер такі вобраз вёскі! І з якім смуткам выязджаецца зараз з вёскі, у якой «нічога не робіцца».

Залукі не належаць да такога тыпу вёсак. Тут многае робіцца, хоць не заўсёды з належным разуменнем, хоць не заўсёды так, як бы трэба было. Аб усім гэтым і хочацца пагаварыць. Аб гэтых добрых і нядобрых з'явах, якімі актуальна найбольш зацікаўлены самі Залукі.

### СУПРОЦЬ АГНЮ

Перад Залукамі, як вёскай, вялікая перспектыва. Яны належаць да групы вёсак тзв. «разваёвых». Не месца тут шырэй тлумачыць, што гэта абазначае. Скажам толькі, што гэта адзін з асноўных спосабаў прасторавага загаспадаравання вёсак і зліквідавання ў будучым розніц паміж вёскай і горадам. Працуючы кажучы, вёска Залукі ў будучыні выглядам будзе прыпамінаць цяперашні невялічкі горад з, дапусцім, 3000 жыхароў. Маючы гэта на ўвазе ўлады ўжо зараз робяць пэўныя крокі.

Аддзел архітэктуры і будаўніцтва Прэзідыум ПРН у Беластоку апрацаваў план раздзялення вёскі Залукі вогнетрывалымі палосамі. Навошта такія пасы і як яны выглядаюць?

Вёска Залукі густа забудавана і мае пераважна саламяныя стрэхі. Значыць, найменшай іскарцы тут лёгка паказаць сваю грозную знішчальную сілу. Дахоўкі і вогнетрывалай сцяны агонь не возьме. Таму ў граніцах 100 м. паласы гаспадары Залук, а ёсць іх 13, павінны змяніць дах з саламянага на дахоўку або іншы вогнетрывалы матэрыял. У будынках пры граніцы паласы трэба і сцяну, прымыкаючую да паласы, зрабіць вогнетрывалай (атынкаваць). Усе гэтыя змены вельмі і вельмі карысныя самым гаспадарам, не каштуюць іх нічога. Бо ПЗУ звяртае поўную вартасць за закупленыя і ўжыты да рамонту матэрыял. А гэта каштуе 15—20 тысяч зл. на кожную гаспадарку, абнятую паласой.

Здавалася б тады ўсё цудоўна, і толькі хутчэй рабіць. На жаль не ў Залукаўскіх гаспадароў. Бо іх адносіны да гэтай акцыі сапраўды дзівачныя і незразумелыя для сур'ёзна думаючага чалавека. Замест з адкрытымі рукамі прыняць такое дабрадзейства (бясплатны рамонт, забеспячэнне ад агню сваіх будынкаў і суседа, які не ў паласе) адцягваюць, паралізуюць акцыю, вынаходзяць розныя перашкоды. Чаму? Баяцца нейкіх абавязацельстваў. Якіх?

ПЗУ не ад сёння выплачвае пагарэльцам мільёны злотых, якія пайшлі з дымам. І вогнетрывалыя палосы ў густазабудаваных вёсках — гэта адзін з найбольш радыкальных спосабаў барацьбы з агнём. Каб у больш вёсках былі такія палосы, менш было б страт ад пажараў. Толькі так трэба ра-

(Працяг на стар. 4)

## СЯМЯЦІЦКІ КРАЯВІД



Фота: Г. Рагазінскі

## З Кошак у Канаду

Яшчэ некалькі год таму назад хто там ведаў аб загубленай вёсачцы Кошкі, у Бельскім павеце.

Зараз Кошкі вядомыя не толькі ў краіне, але шырока за мяжой. Гэтую папулярнасць жыхары вёскі Кошкі здабылі дзякуючы сваёй працавітасці і народнаму таленту.

Пяць гадоў таму назад некаторыя жанчыны ў Кошках пачалі ткаць саламяныя ходнікі і маты. Іх вырабамі пацікавіліся мастакі і спецыялісты.

У Кошках заварушыліся. Вопыт таленавітых жанчын пачалі пераймаць і другія ў вёсцы. А вырабы іх павандравалі далёка за граніцу.

Цяпер у кожнай хаце ў Кошках лёскаюць кросны. Ткуць дзяўчаты і жанчыны, а нават хлопцы і мужчыны не саромяцца гэтай наўскрозь «бабскай» працы. Кошкаўскія народныя вырабы маюць вялікі попыт не толькі ў нашай краіне, але далёка за граніцай.

Народныя вырабы з Кошак карыстаюцца вялікай папулярнасцю ў такіх краінах як ЗША, Італія, Галандыя, Бельгія, Іспанія, Канада і іншыя.

Сяляне з гэтай працы маюць нядрэнны зыск. Некаторыя сем'і зарабляюць па 3—4 тысячы злотых у месяц. А гэта ж вялікая падтрымка ў гаспадарцы.

Дзяржаве таксама гэта вельмі карысна. За сялянскую салому і таленавітую працу яна атрымоўвае каштоўныя дэвізы.

Справа пачатая ў Кошках пачала шырока ўспрымацца і ў другіх вёсках Бельскага і Сямяціцкага павета.

У апошні час стваральнікі народных вырабаў з Кошак і другіх вёсак сарганізавалі кааператыў, які будзе садзейнічаць развіццю вырабаў і запэўніць іх пастаянны збыт.

(вб)

## ВЕЧАР У СУВЯЗІ З XX ГАДАВІНАЙ ППР

17.II.62 г. моладзь Старога і Новага Ляўкова сабралася ў вясковай святліцы. Прыйшлі і вучні старэйшых класаў. Вечар быў прысвечаны XX гадавіне ППР. Кіраўнік школы Васіль Цялушэцкі выступіў з дакладам аб слаўнай гадавіне ППР. Коратка і ясна расказаў аб тым, якую ролю адыграла партыя ў гады вызвалення Польшчы, і аб не цяперашняй дзейнасці ў жыцці народа. Пасля выступлення кіраўніка адбылася забава. Была гэта першая забава, якую сарганізавалі вучні вячэрняй сельскагаспадарчай школы. Перад пачаткам забавы старэйшых весялілі сваімі вершамі, песнямі і гумарэскамі вучні сямікласнай і вечаровай школы.

У святліцы холадна. Праз чорныя дзіркі акон шугае той самы вецер, што шуміць на двары. Няўтульна і сумна... Ды вось наш гарманіст, Кананюк, зайграў — паплылі гукі гармоніка. І вецер прыціх, заслухаўся: не спаборнічаць жа яму з такім майстрам. Заварушылася і моладзь. Пачуліся спевы. Гучныя галасы адбіваліся ад столі, запоўнілі залу. Закружыліся пары. І вецер, і холад, і няўтульнасць адступілі. Сярод моладзі вылучаюцца галасы нашых самадзейнікаў. Яны прыгожыя і моцныя. Спяваюць і песні старынныя. Ужо позна. Вёска даўно патанае ў цішыні. Толькі з акон святліцы падае святло. Далёка ў завею ўрываюцца меладыйныя гукі гармоніка. Маладыя сэрцы ў Старым Ляўкове не паддаюцца халодным подыхам зімовага ветру. Перамагае маладосць і песня!

**Янка Цялушэцкі**
Новае Ляўкова

# ЦЯЖКІ ШЛЯХ ДА СВАБОДЫ

**1 сакавіка ў адным з арабскіх кварталаў горада Мэрс эль Кэбір забіта маладую француржанку і яе двое дзяцей. Хто зрабіў гэтае злачынства? Што да гэтага, то рэакцыйная парыжская газета «Фігаро» не мела ніякіх сумненняў. На другі дзень яна пісала: «Нікчэмнага забойства маладой еўрапейкі і яе дзяцей, якое ўчынілі раз'юшаныя мусульманы, нельга выбачыць». Дык вось не чакаючы на вынікі следства, не паклікаючыся ні на якія факты газета адразу давала прысуд вінавайцам. «Ультра» адчыталі гэтую апінію «Фігаро» як заклік да помсты. Таго самага дня ў алжырскім квартале горада Аран разарвалася бомба. У выніку звыш 60 алжырцаў загінула і шмат паранена. «Ультра» не скрывалі, што гэтым яны адпомсцілі за маладую француржанку і яе дзеці.**

**Французская паліцыя па сёння не выкрыла бамбовых бандытаў, якія, як бы ні было, знішчылі толькі людзей. Паліцыя аднак даволі хутка выкрыла віноўнікаў забойства француржанкі і яе дзяцей. Хапіла да гэтага паліцэйскае сабакі «Чэмпіён». Ад месца забойства завяла яна паліцэйскіх проста ў цэнтр горада, дзе — як вядома — алжырцы не жывуць і бадай, з увагі на тэрор ОАС, не паказваюцца. Менавіта тут сабака «Чэмпіён» выкрыла «аднаго маладога чалавека, які — як піша агенцыя АП — неадкладна прызнаўся, што разам з трыма іншымі супольнікамі забіў француржанку і яе дзеці».**

**Паліцыя ўжо не мела клопатаў з арыштаваннем гэтых супольнікаў. Памыляецеся аднак, калі думаеце, што прозвішчы забойцаў пададзена да агульнага ведама і што атрымалі яны суровае пакаранне. Не тут-та яно было. Французскі друк падаў толькі кароткае камюніке, у якім гаварылася, што ўсе чацвёра былі застрэлены паліцыяй «пры спробе ўцёкаў». Канец. Кропка. Нельга з іх зняць дапросу, нельга паставіць перад судом.**

**Але ці сапраўды забойцы не жывуць? Больш праўдападобнымі з'яўляюцца меркаванні алжырскага боку, які гаворыць, што забойцамі маладой еўрапейкі і яе дзяцей былі французскія «ультра», якія, дзейнічаючы ў паразуменні з паліцыяй, шукалі прычыны да пашырэння фалі тэрару алжырскага насельніцтва.**

**Апісаная правакацыя з'яўляецца толькі адным са шматлікіх злачынстваў «ультра» у Алжыры. Фаля тэрару расце тут па меры, як набліжаецца дзень, калі створыцца незалежная алжырская рэспубліка. «Ультра» не здаюцца, хоць урад дэ Голя адчувае сябе ўжо фактычна пераможаным.**

**У выніку дагэтуляшніх алжырска - французскіх перагавораў, а перадусім у выніку вызваленчай вайны, якая ідзе ўжо звыш 7 год, паўстанцы дабіліся сваёй асноўнай мэты — Францыя вымушана была прызнаць правы Алжыру да незалежнасці і тэрытарыяльнай інтэгральнасці разам з багатай мінераламі Сахарай. Парыж прызнаў тымчасовы ўрад алжырскай рэспублікі, як адзінага прадстаўніка інтарэсаў гэтай краіны.**

**Шлях да свабоды Алжыру адчыніць свае вароты, калі ўладзяцца «тэхнічныя» праблемы, якія з'яўляюцца прадметам цяперашніх тайных перагавораў. Да гэтых праблемаў належаць яшчэ: устанаўленне даты галасавання ў справе самавызначэння, пакліканне на перыяд перамежны выканаўчай улады, вызначэнне тэрмінаў эвакуацыі французскіх войск і вызваленне алжырскіх палітычных зняволеных. Паводле апініі аб'ектыўных колаў пагадненне ў гэтых справах павінна быць дасягнута ў найбліжэйшыя дні.**

**Гэта азначала б канец алжырскай вайны. Ці аднак заканчэнне яе будзе азначаць, што фашысцкія «ультра» зложаць зброю? Трэба бадай меркаваць, што ОАС не захоча спыніць тэрару, бо каланізатары ніколі дабраахвотна не аддаюць сваіх багаццяў і прывілеяў. Значыць, маладая алжырская рэспубліка стане ў абліччы існуючых ужо сёння вялікіх палітычных і грамадскіх канфліктаў. Вырашэнне гэтых канфліктаў будзе пробай поглядаў новай улады.**

**УЛ. ЛАЗІНСКІ**

## ВЕСТКІ БССР

З Анатолем Сцяпанавічам Крэменем — машыністам экіпажа экскаватара, удасканаленні і вопыт якога шырока вядомы будаўнікам трэста, мы сустрэліся на будаўніцтве Полацкага нафтаперапрацоўчага завода.

У 1961 годзе яго экіпаж перапрацаваў больш 150 тысяч кубаметраў грунту — амаль у дзве дырэктыўныя машынанормы.

— Да канца 1962 года закончым выкананне плана сямігодкі, прадугледжанага на наш экскаватар, — гаворыць Крэмень. — Іншымі словамі, закончым сямігодку датэрмінова — за чатыры гады.

У мнагатысячным калектыве нафтабудаўнікоў зачыншчыкамі з'яўляюцца камуністы. У іх першых радах — камуніст Анатоль Крэмень і яго сябры. Павал Казлоўскі і Валеры Старынскі. Яны сталі першымі арганізатарамі спаборніцтва ў гонар XXII з'езда КПСС.

Экскаватаршчыкаў камуністычнага экіпажа ведаюць у кіраўніцтве механізацыі як выдатных майстроў сваёй справы. Калі ў пачатку 1961 года экскаватар выпрацоўваў у месяц усяго 4,5 — 5 тысяч кубічных метраў грунту, то зараз, ва ўмовах сямігадзіннага рабочага дня, — да 18,5 тысячы кубаметраў.

Час ад часу наватары ўносяць што-небудзь новае ў арганізацыю працы. Па штату на экскаватары павінны працаваць чатыры чалавекі. У працэсе працы члены экіпажа пераканаліся, што яны поўнасцю могуць справіцца ўтраіх. Было пастаноўлена сарганізаваць дзве змены. Памочнік Валеры Старынскі, працуючы ў першую змену з машыністам, з увагаю сочыць за тэхнічнаю спраўнасцю машыны, ліквідуе малыя недахопы, рыхтуючы тым самым экскаватар да беспералыннай працы ў другую змену.



## ЗАЎСЁДЫ Ў ПОШУКАХ





**Анатоль Крэмень.**

Прыходзіцца часта і спрачацца. Вось на будоўлю прыбыў экскаватар з завода.

— Я не разумею, — гаворыць Крэмень спакойна і нават з нейкім смуткам, — чаму блок на дзяржанні ўстаноўлены вертыкальна? У такім жа становішчы трос перакатваецца і сцірае яго аб рэборду. Трос вельмі хутка зношваецца.

І ён, урэшце, прышоў да вываду, што трэба зрабіць да дзяржання абойму з чатырма накіроўваючымі ролікамі, каб не спадаў трос, а блок устанавіць гарызантальна, прымацаваўшы яго д.. пальца, спецыяльна прыробленага да абоймы. І так, у канструкцыю новай машыны ўнесена разумная папраўка.

Зусім нядаўна экскаваташчыкі адказаліся ад учотчыкаў. Гэта дало будоўлі сотні рублёў эканоміі. Здавалася б, што экскаватаршчыкі зрабілі ўсё магчымае для вытворчасці: дабіліся высокай выпрацоўкі, абыходзяцца без памочніка і ўчотчыкаў. І працуй сабе на здароўе. Але і гэта не заспакоіла неспакойных людзей. Тройка экскаватаршчыкаў задумала новую справу — адказацца ад дапамогі дзяржаўных слесараў. Яны рашылі гэту працу праводзіць сваімі сіламі. Зараз экіпаж сам рэгулярна праводзіць бягучы рамонт, сочыць за рэгуліроўкай механізмаў. Ён звярнуўся з заклікам да ўсіх механізатараў.

«Будзем рамантаваць экскаватары, бульдозеры і цягачы сваімі сіламі». Калі ўсе механізатары кіраўніцтва пойдуць па іх прыкладу, то гэта дасць магчымасць сэканоміць у фонд сямігодкі дзесяткі і сотні тысяч рублёў.

Па прыкладу наватараў - энтузіястаў пайшлі многія механізатары будоўлі.

**Н. МІХІНАЎ**

## БЕЛАСТОЦКАЯ ХРОНІКА

1 сакавіка наведаў Беласток віцэ-прэм'ер Ю. Такарскі. Спаткаўся ён з моладдзю Агульнаадукацыйнага ліцэя №1 у Беластоку, прыняў удзел у нарадзе Канферэнцыі Рабочага самакіравання ў Фастах, а 4 сакавіка удзельнічаў у беластоцкай гарадской партыйнай канферэнцыі.

✻

1 сакавіка адбылося ў Беластоку пашыранае пасяджэнне Прэзідыума ВРН супольна з Калегіяй Міністэрства гаспадаркі, на якім быў абмеркаваны праект загаспадаравання багна Візна. У пасяджэнні, між іншым, прыняў удзел міністр сельскай гаспадаркі Мечыслаў Ягельскі.

✻

Ужо ў традыцыю ўвайшло, што кожную карысную ініцыятыву падтрымлівае Ваяводскі камітэт СФОС.

У апошнім часе Ваяводскі камітэт СФОС прызначыў 550 тысяч злотых на разбудову і канчатковае загаспадараванне гарадка адпачынку для журналістаў над возерам Паможэ ў Сейненскім павеце.

Гарадок узнік па ініцыятыве і пры вялікім укладзе сіл беластоцкіх журналістаў. Дзякуючы прыгожаму месцу знаходжання (вада, лес), ужо зараз гэтае месца вядома і за граніцай. 550 тысяч злотых пойдзе, між іншым, на электрыфікацыю кэмпінговых домікаў будову санаторнага будынка, будову мола і загаспадараванне пляжа.

вл.




Налепка сядзеў у сядле, як на іголках. Абмінаючы на дарозе лужыны, у якіх купаліся прамені заходзячага сонца, ён увесь час агдядаўся. Пахла вільготнай раллёй, пар узнімаўся над палямі.

Сабураў мае для яго тэрміновае даручэнне, але ён крыху паспяшаўся ў дарогу. Толькі праз гадзіну яго будуць чакаць каля чатырох дубоў. Часу яшчэ ёсць.

Налепка спыніў каня пад кашлатай ліпаю і спрытна скочыў на зямлю. Ён дастаў з кішэні люльку, набіў яе тытунём і закурыў. Люлька крыху супакоіла яго. Але ж чаму ён не запытаў Бэнку, як трапіў на яго пісьмовы стол ліст, адрасаваны Рэпкіну?

Ох, гэтыя нервы! Налепка пакруціў галавой і выпусціў воблачка дыму.

Чалавек не з жалеза і часам залішне палохаецца. Пісьмо ад партызанаў, ад каго ж яшчэ можа быць? Але чаму не аддалі яго ў рукі?

«Чаму?» — запытаў сябе Налепка і яшчэ больш занепакоіўся. Яго падазраваюць, і Мележава пра гэта гаварыла. Жак прапануе яму адпачынак. Можа ад яго хочуць паціху збавіцца, каб не ведалі пра гэта салдаты? Няма нічога лягчэйшага, як надзець яму ў цягніку наручнікі. Аднак гестапа нешта ведае.

Прачытаўшы пісьмо, у якім партызаны вызначылі сустрэчу, ён адразу асядлаў каня. Але якім чынам трапіла гэтае пісьмо ў яго кабінет — не цікавіўся.

Абапёршыся аб тоўсты ствол ліпы, Налепка нервова курыў люльку і глядзеў на Савоя, які разграбаў капытом гнілое лісце на краі канавы. З-пад лісця выглянула бледная сцяблінка травы. Конь наступіў на яе капытом, але сцяблінка зноў выпрасталася, нібы сталёвая пружынка, і Налепка мімаволі ўсміхнуўся:

«Таксама не з жалеза, а не паддаецца нават жалезнай палкове», — падумаў ён.

Падышоў да Савоя, папляскаў яго па шыі і сказаў:

— Не бойся, і мы не дамося.

Ён выбіў люльку і ўскочыў у сядло. Конь разбіў капытамі цьмянае люстэрка лужыны і паскакаў галопам. Пад'язджаючы да густога лесу, у які вяла адзіная сцежка, Налепка нацягнуў вузду. Савой устаў на дыбкі, а Налепку здалося, што ён чуе тупат конскіх капытоў і хлюпанне. Нейкае цяжкае прадчуванне авалодала яго сэрцам.

Ён не памыліўся. З лесу проста да яго імчаліся чатыры коннікі. Першы з іх быў нямецкі лейтэнант, а на другім кані сядзеў Гобза.

Налепка здрыгануўся. «Пастка, — мільганула думка. Яны ведалі пра сустрэчу».

Гобза пад'ехаў да Налепкі і з пагардлівай усмешкай казырнуў:

— Куды шлях трымаеце, пане капітан? — з'едліва запытаў ён.

Налепка сабраў усе свае сілы, каб спакойна адказаць на запытанне:

— Каня прагульваю.

— Мы можам далучыцца да кампаніі, — усміхнуўся Гобза і прапусціў Налепку наперад.

— У мяне справы, мушу вяртацца, — адказаў Налепка і, рэзка павярнуўшы каня, паскакаў па гразкай дарозе.

Каля першых хат ён асадзіў каня і павярнуў да будынка, дзе знаходзіўся штаб палка. На ганку стаяў Бэнка і шырока пазяхаў. Заўважыўшы Налепку, ён падбег да яго, схапіў за вуздэчку каня і выпаліў адным духам:

— Пане капітан, вас пытала настаўніца. Вам трэба зайсці ў дзесяты нумар, апошні дом на плошчы.

127 128 129

# ШКОЛА і АШЧАДНАСЦЬ

Ваяводская конкурсная камісія ацаніла вынікі II этапа (лістапад, снежань) конкурсу «Шляхам штафеты ашчадных».

Камісія прагледзела вынікі ашчаднасці са 146 школ і прызнала ўзнагароды. Між іншым прызнала: дыплом і грашовую ўзнагароду — 1500 зл. Пачатковай школе ў Семяноўцы, Гайнаўскі павет; дыплом і грашовую ўзнагароду — 500 зл. Пачатковай школе ў Леўках, Бельскі павет; адзнаку СКО Пачатковай школе ў Дзеніскax, Бельскі павет.

Камісія прызнала таксама ўзнагароды заслужаным настаўнікам — апекунам СКО.

Грам. Кацярыне Бай — апекуну СКО пры Пачатковай школе ў Семяноўцы — 450 зл. Грам. Генрыку Гаузе — апекуну СКО пры Пачатковай школе ў Леўках — 300 зл.

Школы і гарцэрскія дружыны, якія не ўдзельнічалі ў II-ім этапе конкурсу, могуць прыняць удзел у наступных этапах.

Паведамленне аб ашчаднасці трэба прысылаць у Ваяводскі аддзел ПКО у Беласток.

вл.

# ІНВЕСТЫЦЫЯ
## за 3 мільёны злотых

У бягучым годзе будзе змеліяраваная плошча лугоў, якія знаходзяцца ў даліне ракі Руднік. Рака Руднік будзе ўрэгулявана на даўжыні ў 7 650 м. коштам 1.017.171 зл., якая асушыць плошчу ўрочышча, на якім у будучыні будзе шахта тарфяных гразей і тарфяныя прадпрыемствы. Будзе выкапана 74 км прытокаў да ракі Руднік коштам 1.880.066 зл., а таксама 17 км дрэнажнафашынных равоў за 66 994 зл. Гэтая меліярацыя асушыць грунт і лугі суседніх вёсак, якія належаць да воднай суполкі «Розвуй» у Юшкавым Грудзе.

Пахвала належыцца сялянам з вёскі Плянты, якія рыхтуюцца загаспадараваць 25 га ўгоддзяў зялёных, а таксама сялянам з Баршчэва, якія загаспадаруюць каля 38 га грунту і лугоў.

«Дуб»

# КІНО

**ПРАГРАМА**
**АД 12 ДА 19.III.1962 г.**

**ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ**

**Белавежа**
„Perła" (meksykański) 13—15. III. „Miłość powraca wiosną" (radz.) 16—18.

**Кляшчэлі**
„W ciszy stepowej" (radz.) 13—15.III. „Liga dżentelmenów" (angl.) 16—18.

**Навасады**
„Odwiedziny prezydenta" (polski) 17—18.

**Нараў**
„Normandia-Niemen" (radz.) 14—18.

**Нараўка**
„Sprawa trzynastu" (radz.) 14—18.

**Чаромуха**
„Światła na biegunie" (radz.) 13—15. „Nafta" (polski) 16—18.

**Чыжы**
„Mein Kampf" (szwedzki) 14—18.

**БЕЛЬСКІ ПАВЕТ**

**Боцькі**
„Korsarze Pacyfiku" cz. II. (radz.) 14—18.

**Браньск**
„Tajemnicza puderniczka" (rumuński) 13—15. „Porucznik Marynin" (radz.) 16—18.

**Гродзіск**
„Korsarze Pacyfiku" cz. I. (radz.) 17—18.

**Орля**
„Bunt kapitana" (czeski) 14—18.

**Райск**
„15,10 do Yumy" (USA) 14—18.

**БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ**

**Гарадок**
„Flip i Flap na bezludnej wyspie" (franc.) 13—15. „Świadectwo urodzenia" (polski) 16—18.

**Міхалова**
„W pięknej Indonezji" (radz.) 13—15. „Nafta" (polski) 16—18.

**Супрасль**
„Dzień ostatni, dzień pierwszy" (radz.) 13—15. „Mezalians" (węgierski) 16—18.

**Чорна Весь**
„Tajemnicza puderniczka" (rumuński) 13—15. „Porucznik Marynin" (radz.) 16—18.

**СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ**

**Мельнік**
„Okrucieństwo" (radz.) 13—15. „Daleki ukochany" (radz.) 16—18.

**Мілейчыцы**
„Na tropie przemytników" (duński) 13—15. „Droga na Zachód" (polski) 16—18.

**Нурэц**
„Winchester 73" (USA) 13—15 „Czekajcie na listy" (radz.) 16—18.

**САКОЛЬСКІ ПАВЕТ**

**Крынкі**
„Słońce wschodzi nad Bengalem" (pakistański) 13—15. „Przeciwko Bogom" (polski) 16—18.

**Сухаволя**
„Taka miłość" (czeski) 13—15. „Przed nami zakręt" (radz.) 16—18.

**Шудзялава**
„W masce i bez maski" (japoński) 14—18.

**Янаў**
„Człowiek ze słomy" (włoski) 13—15. „Dziś w nocy umrze miasto" (polski) 16—18.

**ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ**

**Ліпск**
„Pierwsza lekcja" (bułgarski) 17—18.

**Новы Двор**
„Ludzie z pociągu" (polski 17—18.

**Ружаны Сток**
„Miłość należy cenić" (radz.) 17—18.

# НАШ ДОКТАР

Жыхары вёскі Ласінка Гайнаўскага павета цэняць і паважаюць свайго доктара Казерскага. Ён добры доктар на ўсю аколіцу. У той час, калі многіх жыхароў Ласінкі палажыў грып, наш доктар вельмі многа працаваў, да яго не зачыняліся дзверы. Жыхары вёскі Ласінка вельмі дзякуюць нашаму доктару Казерскаму за тое, што нас добра лечыць.

**Янка Керсноўскі**
Ласінка

**ЧЛЕНЫ ГАРАДСКОГА АДДЗЕЛА БГКТ Ў БЕЛАСТОКУ АДЗНАЧЫЛІ 44 ГАДАВІНУ ПАЎСТАННЯ САВЕЦКАЙ АРМІІ.**

У сувязі з 44 гадавінай паўстання Савецкай Арміі Гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку 25 лютага г. г. сарганізаваў у зале кіно ТППР урачыстую акадэмію.

Удзельнікі акадэміі выслухалі даклад аб Савецкай Арміі. Пасля даклада дэманстраваўся савецкі фільм.

(вб)

# Добры бібліятэкар

У вёсцы Палічна ёсць бібліятэка, дзе бібліятэкарам працуе сяброўка Люба. Як толькі яна пачала працаваць, у бібліятэцы ўсё змянілася на лепшае. Знайшліся столікі, крэслы, шашкі, шахматы, радыё. Цяпер у бібліятэцы больш цікавых кніг, часопісаў. Кнігі знаходзяцца у шафах, на вокнах кветкі. У бібліятэку ходзяць старэйшыя і моладзь. Яны чытаюць кнігі, гуляюць у шашкі, шахматы.

Акрамя таго сяброўка Люба сарганізавала выступленне мастацкага гуртка, якое было прынята жыхарамі вёскі вельмі сардэчна. Зараз гурток рыхтуе п'есу «Прымакі».

Моладзь Палічны вельмі ўдзячна бібліятэкару Любе за добрую працу.

**Мікалай Вілюк**
Палічна

# Прыемныя ўспаміны

Наш гурток наведаў нядаўна вёску Дубяжын і Мокрэ са сваёй праграмай. У праграме была п'еса, скетчы і песні. Людзей было многа. Задаволеныя дзеці стаялі адно каля другога, датыкаючы сваімі рукамі сцэны. Прыемна і ахвотна выступаецца, калі бачыш задаволеныя твары людзей.

Гурток з Мулявіч шчыра дзякуе моладзі тых вёсак за гасціннную сустрэчу. Каб успаміны былі надоўга, просім гурткі тых вёсак — адведайце нас.

Ад гуртка з Мулявіч праз рэдакцыю «Нівы» пасылаем шчырае дзякуй.

**А. Кананюк**

# АНКЕТА

**ЗАПОЎНІЦЕ, ВЫРАЖЦЕ І ВЫШЛІЦЕ НА НАШ АДРАС.**
**СЯРОД УДЗЕЛЬНІКАЎ АНКЕТЫ БУДУЦЬ РАЗЛЯСАВАНЫ КНІЖНЫЯ ЎЗНАГАРОДЫ.**

**1. Якія тэмы Вам найбольш падабаюцца?**

______________________________

______________________________

**2. Якія тэмы Вам не падабаюцца?**

______________________________

______________________________

**3. Ці чытаеце Вы ў «Ніве» наступныя рубрыкі: (падкрэсліць).**

**Міжнародныя каментары**
**Весткі з БССР**
**Фальклор Беласточчыны**
**Беластоцкая хроніка**
**Нашы інтэрв'ю**
**Дзядзька Лявонь**
**Бараной па пустазеллі**
**Кіно**
**Песні на заяўках**
**Сардэчныя тайны**

**4. Якія новыя рубрыкі хацелі б Вы бачыць у «Ніве»?**

______________________________

______________________________

**5. Якіх аўтараў «Нівы» чытаеце найахвотней?**

______________________________

______________________________

**6. Што ў «Ніве» Вам найбольш падабаецца?**

______________________________

______________________________

**7. Што Вам у «Ніве» не падабаецца?**

______________________________

______________________________

**8. Ці пастаянна чытаеце Вы «Ніву»?**

______________________________

**9. Колькі Вам год?**

______________________________

**10. Ваш адрас:**

# Гуртoк БГКТ у Ласінцы

Вечарам — 23 лютага г.г. адбыўся агульны сход гуртка Беларускага таварыства ў Ласінцы (Гайнаўскі пав.). Вырашана аднавіць працу мастацкага гуртка, які свайго часу карыстаўся вялікай папулярнасцю. Моладзь прыступае таксама да арганізацыі матаровага курса. Плануецца сустрэчу з Алесем Барскім — аўтарам зборніка вершаў «Белавежскія матывы». У вясенні час гурток БГКТ у Ласінцы пры супрацоўніцтве з суседнімі гурткамі нашага Таварыства наладзіць экскурсію аўтакарам па Польшчы.

Старшынёй праўлення гуртка БГКТ выбрана Марыся Анікюк, намеснікам старшыні Уладзіміра Колнера. Сакратаром застаўся Іван Пракапюк, а скарбнікам Вера Кузьма.

Дык пажадаем гуртко ўцам поспехаў у іх дзейнасці.

(СЯ)

# Дарагія Чытачы!

**Прыпамінаем, што ўжо неадкладна трэба зрабіць падпіску на «Ніву» на II квартал. Квартальная падпіска абяспечыць Вам рэгулярную дастаўку нашага часопіса. Тым больш, што квартальная падпіска «Нівы» каштуе ўсяго толькі 7 зл. і 20 гр.**

**1 красавіка пачнем друкаваць сенсацыйную аповесць пра савецкіх разведчыкаў у час II сусветнай вайны. У II квартале пачнем друкаваць таксама шадэўры беларускай паэзіі і шмат іншага цікавага матэрыялу.**

# „ЛЯВОНІХА" у Сяржана

20 лютага г. г. беларуская эстрада «Лявоніха» дала канцэрт для рабочых тэкстыльнага прадпрыемства ім. Сяржана ў Беластоку. Рабочыя вельмі цёпла прынялі выступленні эстрады.

Яны таксама з цікавасцю выслухалі даклад працаўніка Галоўнага Праўлення БГКТ — Уладзіміра Паўлючука аб дзейнасці Таварыства.

(вб)

# Ніва

Adres redakcji: Białystok. ul. Wesołowskiego 1.
Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 49.
Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2.40 zł. kwartalnie — 7.20 zł. półrocznie — 14.40 zł, rocznie — 28.80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma.
Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa ul. Wilcza 46 Nr konta PKO I-6-100024.
Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4.70 $ w Europie. 5 $ — w USA.
Nakład 5000 Bltk F-3

### У АРМІІ

— Што вы спіце, не чулі пабудкі?!

— Чуць то я чуў, але думаў, што гэта сон.

Прыслаў **Аляксей Стэмпа**




## З НАРОДНАГА ГУМАРУ

**— Што робіш?**

**— Адпачываю.**

**— А да гэтага што рабіў?**

**— Спаў.**

**— Дык чаму ж ты адпачываеш?**

**— Бо пасля сну і адпачыць добра.**

* ✲ *

**— Хлапец, падрамантуй валёнкі!**

**— Падрамантую, няхай пацяплее.**

* ✲ *

**— Еш, Якаў.**

**— Дзякуй, дзякуй.**

**— Дык чаму ж не ясі?**

**— А чаму ж лыжкі не дасі?**

**«Вожык»**




### МЫЎ

— Сынок, мыў ты ручкі?

— Так, яшчэ ўчора!

Прыслаў **Андрэй Сідарук**

### НАЙКАРАЦЕЙ

Класная праца па беларускай мове. Тэма: «У гасцях у бабулі».

Найкарацейшую працу напісаў Андрэй: «Бабулі не было дома».

Прыслаў **Анатоль Нікіцюк**

### ТАМАШ І ТАРАС

Браты Тамаш і Тарас мелі на двух адны боты. Нехта пытае:

— Чаму ты, Тамаш босы?

— Бо Тарас абуты.

Прыслаў **Янка Плева**

Драўляныя пляцоўкі да танцаў былі надта папулярнымі ў нашых вёсках. Цяпер яны выходзяць з моды. Іх месца паволі займаюць святліцы. Але не ў кожнай вёсцы ёсць магчымасці для пабудовы або наладжання святліцы. І тады ад вясны аж да восені пляцоўка карыстаецца поспехам. На ёй адбываецца маладзёжная заба-




ва, праводзяцца танцы ў час вяселля, адбываюцца вясковыя сходы. Вядома, на вольным паветры яшчэ прыемней падыскутаваць ці патанцаваць чымсьці ў памяшканні.

Не дацанілі, аднак жа, значэння сваёй пляцоўкі Аляксей Леанчук, Кастусь Буслоўскі і Анатоль Каменскі ў вёсцы Каўпакі (Беластоцкі павет). Восенню мінулага года яны прадалі пляцоўку жыхару вёскі Подваркі. Як ходзяць весткі — за 250 зл., якія прапілі.

І што ж у гэтым дрэннага? Ці нельга нічога прадаваць? — спытаеце. Можна прадаваць, але толькі рэчы свае, ніколі чужыя і супольныя (самавольна). Так, так. А вышэй успамянутыя прадалі рэч супольную, бо некалькі год таму пляцоўку будавала ўся моладзь з Каўпакоў і некалькі хлапцоў з Малынкі. Будавалі яе грамадскім чынам.

Моладзь з Каўпакоў хоча, каб пляцоўка вярнулася на сваё старое месца, а самавольныя прадаўшчыкі не абавязкова павінны ж з яе карыстаць, калі само існаванне пляцоўкі ў вёсцы ім... перашкаджае.

**М. К.**



БЕЗ ПОДПІСУ



— ЁН РАНЕЙ ПРАЦАВАЎ У РАЗНІКА.

## У СУДЗЕ

Суддзя да сведкі: — Вы бачылі, як абвінавачаны краў каня?

Сведка: — Бачыў.

Суддзя: — І што вы зрабілі?

Сведка: — Хутчэй пайшоў і свой хлеў замкнуў.

Прыслала **Аня Андросюк**

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ ЧЫТАЧОЎ

**Па просьбе Марыі Алесюк, вучаніцы беларускага агульнаадукацыйнага ліцэя ў Бельску, змяшчаем песню**

## Ой, Нёман, бацька мой Нёман

**Муз. Н. Сакалоўскага**
**Сл. А. Астрэйкі**




**Ой, Нёман, і слава і песня**
**Народа майго і зямлі!**
**Магілаю ворагам цеснай**
**Не раз твае хвалі былі.** } (2 разы)

**Да змогі цябе баранілі**
**Твае баявыя сыны,**
**Каб ворагаў чорныя сілы**
**Па хвалях не гналі чаўны.** } (2 разы)

**Рака наша слаўная, Нёман,**
**Чысцейшая чэрвеньскіх рос,**
**Хто мар не ўплятаў у твой гоман,**
**Габе хто пашаны не нёс?** } (2 разы)

**Ой, Нёман, ой бацька наш родны,**
**Як сонца, як дзень дарагі,**
**Садамі цудоўнай Радзімы**
**Твае расцвілі берагі.** } (2 разы)



БЕЗ ПОДПІСУ

# КУЛЬТ-УРА

Зусім інакш выглядала б культура ў Бельскім павеце, калі б яе можна было атрымаць у гэсаўскіх сталоўках.

Уявіце сабе толькі, дарагія чытачы, заходзіце вы ў сталовую і заказваеце порцыю культуры.

— У нас культуры вялікі выбар, — адказвае вам ветліва афіцыянтка і падае меню. І, сапраўды, не вядома якую і выбраць. Тут яна ў рознай форме. І тэатральная, і мастацкая, і грамадская.

— Выбірайце, па якой душа найбольш сумуе, — заахвочвае вас афіцыянтка.

Нарэшце вы выбралі. Прыносяць вам выбраную порцыю на талерачцы, і вы ж апетычна ўплятаеце і заказваеце ўсё новыя формы.

А між намі гаворачы, культура ў гэтым павеце пастаўлена высока, так высока, што цікавы чалавек задзірае галаву, і не можа яе ўгледзець.

Невядомыя людзі кажуць, што грамадскія рады ў Бельскім павеце па тры месяцы не выплачваюць зарплаты бібліятэкарам грамадскіх бібліятэк. Трэба разумець, што культурны фронт вялікі, а бібліятэкар — чалавек маленькі. А, дарэчы, якая ж гэта культура, калі чалавек капаецца ў кнігах?

Для школьных бібліятэк грамадскія рады маюць 540 тысяч злотых. За 10 месяцаў купілі кніг на 40 тысяч, па той самай прычыне, што кнігі ў школе — гэта яшчэ не культура. Маюць вучні падручнікі, ну і няхай вучацца. Калі вучань не прачытае дзюжыны кніг, ад гэтага землетрасення не будзе. Падрастуць, пачнуць самі грошы зарабляць, і тады панакупляюць сабе кніг і нагоняць недачытанае.

Ды й гутарым мы сёння аб культуры, а не аб кнігах. Кніга не тэатр, з вёскі на ўцячэ. Галоўнае зроблена, у грамадскіх радах ад пачатку года пытанне культуры не сходзіць з павесткі дня. Чаго ж вам яшчэ трэба?

Смешныя людзі сядзяць у ваяводстве, залічаюць да культуры бібліятэкараў, настаўнікаў і святліцы. І яшчэ раяць каму і за што плаціць!

Становішча на культурным фронце Бельшчыны можа толькі палепшыцца пры помачы фізкультуры. А што гэтая галіна дзейнасці ляжыць таксама ў кампетэнцыі членаў павятовай рады, ім і прысвячаю гэты фельетон.

А што ў бюджэтах ёсць лічбы для пакупкі кніг школьным бібліятэкам і на зарплату бібліятэкарам, гэта проста недаразуменне

*Дзядзька Лявон*